Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 100.000 м.



# ЗМАГАНЬНЕ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1.000000 м.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 150.000 мк., сярод тэксту 120.000 м. і на 4 стр. 100.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 1 (22). Вільня, Аўторак, 1-га студзеня 1924 г. Год II.

## Віншуем з Новым Годам!

**У гэтым нумары 8 страніц.**

## У новым годзе.

1924 год пачынаецца для Польскае рэспублікі пад знакам вялікіх фінансавых рэформ. А першая з іх—абрахунак усіх падаткаў паводле залатое валюты.

Вынікі гэтае рэформы, проці каторае выcказываліся ўсе паважнейшыя эканамісты ў Польшчы, пагражаюць дужа паважнымі *забурэньнямі ў гаспадарчым жыцьці рэспублікі*. Кожнаму ясна, што такзваная „валёрызацыя“ падаткаў у тэорыі можа і правільная, зусім іначай будзе выглядаць на практыцы, пакуль усе мы будзем зарабляць папяровыя маркі, з кожным днём таньнейшыя, а плаціць будзем па разрахунку на золата, з кожным днём даражэйшае. Адносіцца гэта перш за ўсё да работнікаў, да інтэлігентных працаўнікоў, а далей і да сялян, якія свой хлеб прадаюць ўсё за тыя-ж маркі. Урэшце, адаб'ецца і на гандлю і прамысловасьці, якія, пры поўнай адсутнасьці замежных рынкаў збыту і галіце свайго народу, дагэтуль маглі разьвівацца толькі на кошт скарбу: П. К. О. давала ім пазыкі пад вэксалі ў марках, і, калі прыходзіў тэрмін сплаты ў марках-жа, дык курс маркі настолькі падаў, што даўжнікі на гэтай розьніцы страшэнна зараблялі. Траціў, ведама скарб, ці, справядлівей, народ, які звычайна напаўняе скарбовыя касы падаткамі. Цяпер, пры валёрызацыі падаткаў і ўрадовых крэдытаў, гэтага ня будзе,—і вось мы бачым ужо пачатак дужа грознага для Польшчы застою ў прамысловасьці: у Лодзі, найвялікшым прамысловым цэнтры Польшчы, ужо цэлы рад фабрык спыніў работу, а іншыя працуюць па два, тры, найбольш чатыры дні ў тыдзень.

Страшэнны ўзрост падаткаў, лічучы на маркі, а поруч з тым безрабоцьце і спадзяваная хваля работніцкіх забастовак там, дзе фабрыканты будуць старацца захаваць свае старыя даходы коштам працоўных масаў, урэзываючы ім заробкі і прымушаючы працаваць больш за восем гадзін у дзень, — вось тое, чаго трэба спадзявацца ў першыя месяцы 1924 году. Усё гэта творыць страшэнна цяжкое палажэньне як для кожнага ўраду, так і асабліва для ўраду п. Грабскага, які наагул ідзе тэй-жа дарогай, якой ішоў папярэдні, стараючыся абаперціся на абшарніцка-капіталістычных колах грамадзянства і ўваходзячы ў *востры конфлікт*, у непрымірымыя супярэчнасьці—з аднаго боку — *з працоўнымі масамі Польшчы*, з другога—*з нацыянальнымі меншасьцямі*, якім п. Грабскі нават і не абяцуе ніякага паляпшэньня ў іх бязпраўным палажэньні.

Нельга варажыць даўгавечнасьці такому ўраду, каторы не апіраецца на даверы працоўных масаў, ды вядзе барацьбу з трацінай няпольскага насяленьня Польшчы! Аб гэтым адкрыта заяўляюць нават эндэцкія газэты. Пры сучасным укладзе сіл у Сойме *няма надзеі і на утварэньне* такога *левага парляманцкага ўраду*, які мог-бы цьвёрда стаяць на нагах. І вось адзін з найвыдатнейшых эндэцкіх публіцыстаў, Аляксандар Сьвентаховскі, адкрыта гаворыць у „Gaz. Warsz.“ аб *дзяржаўным пераварoце*:

„Надзея на арганізацыю і ўмацаваньне гаспадарства эвалюцыйнай дарогай усё больш заміpae ў паглядах паважных обсэрватараў нашага палітычнага жыцьця, а замест яе родзіцца сумная вера, што з безканечнага хаосу мог-б вывясьці нас толькі дзяржаўны пераварот. Скуль ён мае прыйсьці, — гэтага ніхто сабе ясна не прадстаўляе, хоць розныя розна думаюць. Адно толькі супольнае перакана201ньне злучае самыя разнародныя пагляды, што ані з гэтым, ані з падобным яму соймам да сталага дзяржаўнага ладу ня дойдзем“.

Так піша Сьвентаховскі. І мы прыймаем яго словы за запаведзь таго, чаго ждуць усё: нейкае *радыкальнае перамены* курсу ўсяго грамадзкага і дзяржаўнага жыцьця Польскае рэспублікі.

Якая-ж будзе—якая павінна быць роля беларусаў у прыпадку такое перамены? Вось, ад адказу на гэтае пытаньне і будзе залежаць уся лінія паступаньня беларускага грамадзянства і беларускіх палітычных груп і дзеячоў.

Наша праграма ў межах Польшчы складаецца з двух асноўных часьцін: *сацыяльнае* і *нацыянальнае*. Паскольку першая злучае нас з польскімі *левымі, сацыяльна радыкальнымі групамі*, якія бароняць *інтарэсы працоўных масаў* наагул, пастольку мы не павінны ашуківаць сябе надзеямі, што нехта з добрае волі дасьць нам нейкія ўступкі ў межах нашых дамаганьняў нацыянальнага характару. Гэтая сьвядомасьць і павінна кіраваць нашымі крокамі ў барацьбе за наш нацыянальны быт—у кірунку да *самаўзмацаваньня*, да *разьвіцьця нашае ўнутранае моцы*, да *будаваньня нацыянальнае культуры і падставаў эканамічнае самастойнасьці*, разумеючы, што пры ўсякіх палітычных пераменах у Польшчы мы павінны будзем сваю нацыянальную волю *здабываць*—са згодай ці бяз згоды гаспадароў палажэньня. Такім парадкам, як і даўней, мы на нашым штандары—побач з сацыяльнымі ідэаламі працоўных масаў аб'яднанага сялянства і работнікаў — напішам наш нацыянальны кліч, і *зьдзейсьненьне іх абодвух* будзе тэй пуцяводнай зоркай, якая ў кожным палажэньні пакажа нам належную дарогу.

Агульны ход жыцьця, агульны кірунак сусьветных нападкаў кажа нам, што, крэпка трымаючыся гэтых лёзунгаў, мы будзем ісьці ня проці жыцьця, а *разам з жыцьцём*. І гэта—*залог нашае канцавое перамогі*.

З такой думкай, з такім пераканаьнем мы распачынаем 1924 год, які мо' хутчэй, чым каму здаецца, прымусіць нас выбраць тую ці іншую дарогу *актыўнае палітычнае дзейнасьці*.

## 1923 год у беларускім жыцьці.

Год 1923 ў беларускім жыцьці, як год няўстаннае напружанае *барацьбы за нашае нацыянальнае існаваньне*, падобны да раду папярэдніх. Але разам з тым гэта ў шмат якіх галінах і *год новых дасяганьняў*.

Чатырма болей ці меней магутнымі рэчышчамі разьлілося беларускае нацыянальнае жыцьцё і нацыянальнае змаганьне. Два галоўныя—гэта Заходняя і Усходняя Беларусь, дзьве паловы нашае Бацькаўшчыны, разрэзанае жыўцом ліхое памяці рыжскім мірам... Далей—тая часьціна Віцебшчыны, што знаходзіцца ў межах Рэспублікі Латвіі, і ўрэшце—нашая эміграцыя ў Амэрыцы якая толькі сёлета запраўды адгукнулася на кліч Бацькаўшчыны, пачала арганізовывацца і, чым магла, прыкладаць сваю руку да нашае творчае працы тут, дома.

Калі паўзіраемся мы на тое, што рабілася за гэты год ува ўсіх чатырох часьцінах нашага народу, дык усюды ўбачым у істоце сваей блізу той самы абраз: *змаганьне з варожымі нам сіламі і тварэньне новых культурных цэннасьцяў*. Розныя толькі абставіны і формы змаганьня.

### Заходняя Беларусь.

Ад самага пачатку мінулага году ў Заходняй Беларусі ўсё больш і больш узмацоўваўся і крапчэў паход проці ўсяго нацыянальна-беларускага, паход, які вёўся і вядзецца, як адзін з асноўных пунктаў палітычнае праграмы ўсіх зьмяняўшыхся польскіх урадаў.

Пачатак году адзначыла „расплата“ адміністрацыі з усімі, хто ў канцы 1922 году прыймаў чыннае ўчасьце ў выбарах у польскі Сойм і Сэнат і агітаваў за беларускі сьпісак кандыдатаў. Пачаліся бязпраўныя арышты, обыскі, а часта-густа біцьцё і іншыя зьдзекі над людзьмі, якім польскія законы фармальна забясьпечывалі „свабоду выбараў“. За скарыстаньне з гэтае „свабоды“ шмат хто апынуўся ў вастрозе, шмат каму прыйшлося пакінуць Бацькаўшчыну, каб гэтак запраўды забясьпечыць сваю асобу ад перасьледаваньня...

Але гэтага было мала: „расплата“ біцьцём і зьдзекамі над безбароннымі сялянамі не здаволіла тых, каму не ўдалося перашкодзіць беларусам здабыць хоць болей-меней адпаведнае ім месца ў польскіх законадаўчых установах. І вось мы бачым цэлы рад палітычных працэсаў, у аснове якіх заўсёды ляжыць *правакацыя* агентаў дэфэнзывы, карыстаючых з нездавольства беларускага грамадзянства сваім бязпраўным палажэньнем пад уладай Польшчы, каб сфабрыкаваць „здраду дзяржавы“ і справацыраваных беларускіх патрыётаў пацягнуць пасьля пад суд. Асаблівую ўвагу зварачае на сябе палітычны працэс 45 беларусаў, які адбыўся ў Беластоку і скончыўся прысудам у вастрог, паміж іншым, пасла Сяргея Барана, які і пасягоньняшні дзень знаходзіцца ў вастрозе, хаця Сойм яго ня выдаў.

Перасьледаваньні, ведама, не абмінулі і беларускіх культурна-асьветных установаў і беларускае прэсы. Вясковыя беларускія школы ў Наваградчыне пазачыняны ўсе; у Горадзеншчыне (Беластоцкае ваяводзтва) асталася толькі адна легальная беларуская школа у Горадні (ў 1918 годзе іх тут было 153 і вучыцельская сэмінарыя ў Сьвіслачы!); у Віленшчыне з агульнае лічбы 200 беларускіх пачатковых школ і вучыцельскае сэмінары ў Барунах, працаваўшых у 1921 годзе, к канцу 1923 гаду асталася каля 30...

За пачаткавымі школамі прыйшоў чарод на беларускія гімназіі, якіх істнавала пяць: у Вільні, Радашкавічах, Гарадку, Нясьвіжы, Навагрудку. Віленскую гімназію, якая зьяўляецца ўзорам для ўсіх другіх і з боку вучэбнага пастаўлена лепш, чым шмат якія польскія гімназіі, пазбавілі і тае дробнае ўрадовае падмогі, якая раней давалася (на пэнсіі тром вучыцялём з агульнае лічбы 22). Гімназію ў Гарадку зачынілі. Гімназіі ў Нясьвіжы задзяржалі выдачу канцэсіі блізу да Каляд. Ды

ўсіх беларускіх матурыстаў пазбавілі права паступаць у польскія ўнівэрсытэты, прымушаючы іх гэтак дзеля вышэйшае адукацыі ехаць заграніцу: у Чэхію, Нямеччыну, Радавую Беларусь і г. д.

Паход проці беларусаў быў скіраваны ўрэшце і проці беларускіх эканамічных установаў. Усім ведама, як цяжка беларусам распачаць якую эканамічную работу: ці то каапэратыў закласьці, ці якое прамысловае прадпрыемства, ці нешта іншае, бо заўсёды выяўляецца нястача капіталу. Вось, беларусы і пастанавілі згуртаваць свае грашовыя засобы і закласьці беларускі банк, які фінансаваўбы такія беларускія ўстановы, якія патрабуюць крэдыту. Але ўрад ген. Сікорскага, хаця перш абяцаўся зацьвярдзіць гэты банк, да адкрыцьця яго не дапусьціў, ня даўшы гэтак беларусам фінансова стануць на ногі...

Урэшце паход проці беларушчыны абняў і праваслаўную царкву, і каталіцкі касьцёл. Царкву, якая павінна абслужываць народ у роднай мове, пастаноўлена спольшчыць, увёўшы ў службу божу польскую мову. У адзінай на ўсю Заходнюю Беларусь віленскай праваслаўнай духоўнай сэмінарыі з восені 1924 году ўлада маніцца ўвясьці навуку ў польскай мове, каб праваслаўныя сьвяшчэнікі ўзгадовываліся на „добрых палякоў". І тая маскоўская чорная сотня, якая ў нас запаланіла царкву, з ненавісьці да беларусаў згодзілася на ўсе ўрадовыя загады... Адначасна з гэтым адміністрацыя прасьледуе каталіцкіх ксяндзоў-беларусаў, якія адважаюцца казаць казаньні пабеларуску, і паліцыянты забараняюць ім ужываць у касьцеле мову нашага народу, прымушаючы гаварыць да беларусаў з амбоны выключна ў „казённай" мове—па польску...

Ці трэба дадаваць, што блізу ўсё польскае грамадзянства, апрача невялікіх груп і адзінак, пахваляе і падтрымлівае ўрадовую палітыку ўціськаньня ўсяго беларускага? Ды паглядзіце, як згодна Сойм зацьвярджаў законы аб адбіраньні ў беларускага народу зямлі для вайсковых асаднікаў, як шчодра сыпаў гэным асаднікам мільярды на падтрыманьне,—і нам стане ясна, што ў Заходняй Беларусі паход проці адвечных насельнікаў і гаспадароў гэтае зямлі вядзецца злучанымі сіламі ўлады і польскага грамадзянства.

Пры такіх абставінах зусім зразумела, што ўся энэргія трохмільённага беларускага насяленьня ў Заходняй Беларусі павінна была кіравацца на нацыянальную самаабарону, на *ператрываньне* часоў ліхалецьця, на захаваньне, як кажуць палякі, свайго „stanu posiadania". На шырокую грамадзкую работу ня было месца, ня было фізычнае магчымасьці. І зусім натуральна, што думка тутэйшых беларускіх дзеячоў мімаволі йшла ў кірунку шуканьня вечных, непарушных філязофскіх падставаў усяго беларускага жыцьця і беларускае ідэі. А найлепшым выражэньнем настрою грамадзянства зьяўляецца зборнік „Заходняя Беларусь", кніга, якая ня ўступае найпаважнейшым расейскім „таўстым журналам" даваенных часоў,

Выганяныя з урадовае і грамадзкае службы, адсуненыя ад дзяржаўнага будаўніцтва у сваім краі, перасьледаваныя за самую сваю прыналежнасьць да беларускага народу, *лепшыя* ідэйныя беларускія элемэнты ў гэтым сваім штодзенным змаганьні за свае права на жыцьцё гартуюць свае сілы і прывучаюцца верыць толькі ў сваю ўласную моц, прывучаюцца будаваць сваё шчасьце і сваю долю толькі ўласнымі рукамі. А *горшыя* элемэнты, душы слабыя і палахлівыя, прадаюць сваё сумленьне тым, хто мае ў гэты мамэнт уладу над імі, прадаюць і Бацькаушчыну, і свой народ, і сваю ідэю за кусок буднага хлеба і „панскую ласку", выракаючыся нават сваей прыналежнасьці да беларускае нацыянальнасьці...

Дый гэткае ўбываньне з нашых радоў гэных горшых элемэнтаў нам ня страшна: слабеючы з боку лічэбнасьці, мы ўзмацовываемся з боку якасьці, бо тыя, што астаюцца вернымі беларускім ідэалам,—гэта ўжо адборныя сілы, гэта дазнаныя байцы за волю і шчасьце свайго народу, гэта той фундамант, на якім можа абапёрціся ўся справа *будаваньня Бацькаўшчыны*: у рашучы мамэнт сярод іх ня будзе здрайцаў і адступнікаў!

## Усходняя Беларусь.

Беларускае жыцьцё ў Усходняй Беларусі рэзка розьніцца ад жыцьця Заходняе. Тут беларуская справа сталася справай дзяржаўнай, і ўсе тыя беларускія сілы, што на Захадзе ня маюць ніякага прылажэньня, на Усходзе заняты тварэньнем ня толькі культурных цэннасьцяў, але і сваей дзяржаўнасьці — сваей рэспублікі.

Але і на Усходзе гэты год быў сьведкай вострае барацьбы беларусаў з тэй астачай маскоўскага нацыяналізму і цантралізму, які надоўга перажыў спарадзіўшы яго царызм. Крок за крокам беларусы здабывалі зьбеларушчаньне народных пачаткавых школаў, якіх цяпер ёсьць каля 1200, заваёвывалі права для беларускае мовы ў урадах і ўва ўсім дзелаводзтве. Ішло далейшае зьбеларушчаньне менскага Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту, дзе, апрача прадметаў беларусазнаўства, ўдалося ўвясьці выкладаньне шмат якіх агульных прадметаў пабеларуску (на юрыдычным і пэдагагічным факультэтах). Уведзена новая сыстэма арганізацыі чырвонае арміі Радавае Беларусі па міліцыйнаму тэрыторыяльнаму прынцыпу, і гэтым самым дасягнута зьбеларушчаньне арміі: у Радавай Беларусі яна ня можа быць небеларускай, бо складаецца выключна з мясцовых людзей. І каманда ўводзіцца ў новых фармаваньнях беларуская. Урэшце, урад Радавае Беларусі, жадаючы згуртаваць дзеля творчае працы ўсе жывыя беларускія сілы, абвесьціў амністыю для ўсіх беларусаў, што дагэтуль выступалі проці радавае ўлады, маючы другія ідэалы.

На вялікі жаль, усе нацыянальныя заваяваньні беларусаў абмяжовываліся Радавай Беларусяй, у склад якое ўваходзяць толькі шэсьць паветаў Меншчыны, пад той час, як за межамі яе астаюцца Вітабшчына, Магілеўшчына (Гомельшчына), Смаленшчына ды частка Чарнігаўшчыны. Тамака йшчэ мае моц маскоўскае засільле, і там далей ідзе барацьба за зьбеларушчаньне адміністрацыі, школы і г. д. Зьвіўшыя там цёплыя гнёзды маскоўскія нацыяналісты, ўбіўшыяся ў пралетарскія арганізацыі, усімі сіламі працівяцца аб'яднаньню ўсіх гэтых зямель з Меншчынай у адну Сацыялістычную Радавую Беларускую Рэспубліку. Але беларускае культурнае жыцьцё пачынае разьвівацца і тут. Ужо летась удалося зьбеларушчыць шмат дзе народныя школы ў Гомельшчыне і Вітабшчыне. Ужо з мясцоў пачынаюць падыймацца галасы за аб'яднаньне з Менскім, і нават далёкая Смаленшчына выяўляе жаданьне ўвайсьці ў склад Беларускае Рэспублікі. Адначасна з гэтым цэнтр камуністычнае партыі і маскоўскі ўрад рашуча пайшлі па дарозе зьдзейсьненьня ідэі нацыянальных рэспублік, аб'яднаных у С. С. Р. Р. І трэба спадзявацца, што гэтая важная справа будзе праведзена ў жыцьцё ўжо ў наступаючым годзе.

Ведама, зьдзейсьніцца гэта не без барацьбы з укрыўшыміся пад камуністычнай партыйнасьцю маскоўскімі цантралістамі старое закваскі. Але беларусы, маючы на Усходзе сваю дзяржаўную арганізацыю, ведама, здолеюць раней ці пазьней перамагчы ворагаў еднасьці ўсяго Беларускага народу.

## У Латвіі.

Беларусаў у Латвіі ўсяго каля 150.000 душ—акурат гэтулькі, сколькі пад Польшчай жыве ў адным павеце на „Усходніх Крэсах". А прыраўнуем лічбу беларускіх школ у Латвіі да лічбы іх у Заходняй Беларусі, — і... Польшчы прыдзецца пачырванець ад сораму. У Латвіі беларускіх пачаткавых школ звыш 50,—значыць, *удвая больш*, чым у межах Польшчы на 3 міліёны беларусаў... У Латвіі *дзьве беларускія ўрадовыя гімназіі*, цалком утрымліваныя на кошт латвійскага скарбу. У Польшчы няма *ніводнае ўрадовае беларускае гімназіі*, а аб палажэньні прыватных мы ўжо вышэй сказалі...

Можна сьмела сказаць, што з боку латвійскага дэмакратычнага ўраду беларусы ў Латвіі не сустракалі ніякіх перашкодаў, а, наадварот, мелі поўнае падтрыманьне ў творчай культурнай працы.

Але на мясцох беларусам шмат дзе і тут прыходзілася вясьці вострую барацьбу з варожымі ім элемэнтамі. Падобна, як у Заходняй Беларусі, тут даволі многа польскіх паноў і багацейшага мяшчанства, ды яны, каб узмацаваць свае сілы, стараюцца на ўсялякія спосабы апалячываць беларускае каталіцкае сялянства, лічучы, што хто каталік—той і паляк. З другога боку, ў Латвію панаехала многа расейцаў, прадстаўнікоў расейскіх правых групаў і партыяў, што не маглі паладзіць з сваім уласным паўстаўшым народам і паўцякалі з Бацькаўшчыны. Да таго-ж ёсьць многа старога маскоўскага вучыцельства з царскіх часоў, узгадованага ў духу ненавісьці да ўсяго беларускага. І вось як палякі, так і маскалі вядуць непрымірымую барацьбу з беларускім нацыянальным рухам, з беларускай мовай, беларускай школай. Да таго-ж сілы беларусаў аслабляюць унутраныя сваркі паміж імі, вынікаючыя з хворае амбіцыі паадзінокіх дзеячоў, якія часта-густа даюць магчымасьць варожым нам сілам душыць яшчэ неўмацаваўшыяся беларускія нацыянальныя ўстановы. І гэтая нязгодлівасьць за мінулы год зрабіла больш шкоды беларускай справе ў Латвіі, чым патугі варожага нам польскага і маскоўскага элемэнту.

Пажадаем, каб у гэтым новым годзе беларусы ў Латвіі здалелі перамагчы перш за ўсё гэнага ўнутранага ворага: *нязгоду*, страшнейшую за аб'яднаныя сілы чужых народаў!

## Амэрыканская эміграцыя.

У працягу некалькіх дзесяткаў гадоў, ад канца XIX сталецьця, з году ў год цягнуліся за акіян беларускія эмігранты, работнікі і вясковыя безьзямельнікі, якія не маглі зарабіць на будны хлеб у сябе дома. Тады йшчэ ледзьве-ледзьве тлела іскра нацыянальнае сьвядомасьці сярод беларусаў, і нашы эмігранты, апыніўшыся на амэрыканскай зямлі, калі каталікі, пападалі ў польскія арганізацыі, калі праваслаўныя—у расейскія, а аб тым, хто яны ёсьць запраўды, нават і ня ведалі. Так дзесяткі і сотні тысячаў беларускіх эмігрантаў узьвялічывалі польскае і расейскае грамадзянства ў Амэрыцы, ды розныя складкі і адлічкі ад іх заробкаў часта йшлі на мэты, варожыя іх пакінутай Бацькаўшчыне.

Даўно ўжо добра наладзілі свае нацыянальныя арганізацыі эмігрантаў братніх нам народаў: літоўскага, украінскага, латышскага,—і эмігранты сваей грашовай дапамогай вельмі выдатна падтрымлівалі барацьбу сваіх братоў у старой Бацькаўшчыне за вызваленьне, за нацыянальную культуру.—Беларускія эмігранты нацыянальна збудзіліся толькі сёлета.

Год таму назад пераехала ў Амэрыку некалькі беларускіх нацыянальных дзеячоў, а сярод іх самы рухавы, самы энэргічны малады беларускі працаўнік, Янка Чарапук. Яму і прыналежыць чэсьць першае арганізацыі беларускае эміграцкае масы, якая да гэтага была ўжо падгатавана весткамі аб тым, як змагаецца за сваю волю беларускі народ у Бацькаўшчыне. Сьледам за Чарапуком у Амэрыку паехаў першы старшыня першага ўраду Беларускае Народнае Рэспублікі, Язэп Варонка. І к канцу 1923 году ў Амэрыцы ўжо йшла шырокая беларуская нацыянальная работа, а прасьледаваныя беларускія культурныя установы ў Заходняй Беларусі: школы, прытулкі і т. п. — атрымлівалі ў леташнім годзе ўжо значную дапамогу ад эмігрантаў.

Можна лічыць, што тварэньне беларускага нацыянальна сьвядомага грамадзянства ў Амэрыцы—гэта здабыча 1923 году. І гэта—такое-ж самае *будаваньне Бацькаўшчыны*, як уся праца беларусаў у Заходняй, Усходняй і Латвійскай Беларусі.

**Лаўрыновіч.**

# 1923 год у жыцьці нашага сялянства.

Беларускі народ у працягу апошніх стагодзьдзяў, пазбаўлены ўласнага дзяржаўнага жыцьця, знаходзіўся пад уладай заборцаў-суседзяў. Ні адзін з гэтых заборчых урадаў ніколі не клапаціўся аб падняцьці эканамічнага жыцьця краю, і з боку гаспадарчага Беларусь зьяўляецца найбольш адсталай старонкай.

Суседзі—пераможцы імкнуліся, як найхутчэй дэнацыяналізаваць наш народ, а ведама, чым народ слабей эканамічна, тым больш ён цёмны, тым хутчэй яго можна асыміляваць. Наша старонка ў цэлым была такім-жа прадметам вызыску, як і кожны беларус паасобку. З гэтай прычыны заборцы зумысна перашкаджалі разьвіцьцю прамысловасьці на Беларусі, штучна насаджваючы яе ў сваіх этнаграфічных цэнтрах. Вось дзеля чаго і дагэтуль Беларусь зьяўляецца старонкай пераважна, бадай выключна, сельска-гаспадарчай

Дзякуючы тым-жа гістарычным умовам і сельска-гаспадарчая культура на Беларусі стаіць ня высока. Краіна нашая заселена даволі рэдка, але большая частка зямлі знаходзіцца пад лясамі і балотамі, рацыянальна выкарыстаць якіх ніхто ніколі не клапаціўся. Вялізарныя абшары лепшай зямлі знаходзяцца ў валаданьні абшарнікаў-паноў. Калі-ж мы прымем пад увагу адсутнасьць у нас вялікай прамысловасьці, якая-б давала работу зьлішку вясковага насяленьня, дык для нас будзе зусім зразумелай тая вастрата зямельнага пытаньня, якая заўсёды стаяла і стаіць перад беларусам-селянінам.

Вялікая вайна, прайшоўшая агнём і мячом па нашай старонцы, у шчэнт зруйнавала нашае сялянства; цяжкое палажэньне нашага селяніна перад вайной шмат пагоршылася ў паваенныя часы. Мільёны сялян прымушаны былі ў часе вайны пакінуць пад прымусам свае хаты і пасьля доўгага бадзяньня на чужыне, вярнуўшыся на Бацькаўшчыну, знаходзілі заместа сваей хаты руіны, акопы, а вузкія шнурочкі заросшымі дробным лесам і апавітымі калючым дротам, а часта здаралася, што там ужо разгаспадарыўся прыбыш—чужынец.

Але сялянства жыло надзеямі на зямельную рэформу. Беднасьць нашага сялянства не давала яму магчымасьці набыць зямлю за грошы; для вырашэньня зямельнага пытаньня патрэбна было надзяліць сялянства зямлёй бяз выкупу. У часе выбараў у Сойм гэты лёзунг уключыў у сваю праграму Цэнтральны Выбарны Беларускі Камітэт. Патрэбнасьць іменна такога, а ня іншага разьвязаньня зямельнага пытаньня была так яснай, што нават тыя партыі, якія ў прынцыпе былі праціўнікамі „зямлі бяз выкупу", як напр. Wyzwolenie, шчыра ці няшчыра прымушаны былі ісьці ў сялянскую беларускую масу з гэтым лёзунгам.

Сабраўся новы Сойм, і хутка выясьнілася, што надзеі нашага сялянства і ў гэтым першараднага значэньня пытаньні ня будуць зьдзейсьнены, як і іншыя жыцьцёвыя дамаганьні беларускага народу. Польская большасьць на дамаганьні нашага сялянства зямлі, адказала перш за ўсё ўсіленьнем асадніцтва, Новыя мільярды былі выкінуты на тое, каб зямлю, якую з прадвеку потам і крывёю паліваў наш селянін, аддаць палякам - асаднікам, якія павінны былі служыць апорай польскай экспансіі на ўсход, быць тымі оазамі ў беларускім моры, якія-б пашыралі польскую культуру, выявіўшуюся перш за ўсё ў п'яных оргіях і зьдзеках над мясцовай люднасьцяй.

Ненавісьць беларускага сялянства да асаднікаў—зьяўляўшыхся ўасабленьнем зямельнай палітыкі польскага ўраду—была так вяліка, што выклікала вядомую перасьцярогу беларускага пасла Б. Тарашкевіча аб „дыме пажараў і кураве братняй крыві". Але хоць шкоднасьць асадніцтва была прызнана бадай усімі палітычнымі мясцовымі партыямі, нават тутэйшымі эндэкамі і консэрватарамі, польская большасьць упарта праводзіла палітыку асадніцтва і ўрэшце ўвянчала справу вядомым законапраектам „аб асадніцтве і парцэляцыі", які зьяўляўся вынікам умовы паміж Хьенай і Пястам. Гэты закон, пакідаючы маёнткі абшарнікам, абрэзкі ад гэтых маёнткаў празначаў зноў-такі прышлым польскім асаднікам. Праўда, на гэтым законапраекце ўрад Вітаса зламаў сабе шыю, але спадзявацца на зьмену зямельнай палітыкі польскага ўраду — рэч безнадзейная.

І сялянства беларускае ня верыць, што сучасны польскі Сойм зможа вырашыць у прыхільным для яго сэнсе зямельнае пытаньне. Палажэньне сялянства шмат пагоршылася. Захват абшарнікамі сэрвітутаў, якімі сяляне карысталіся нават за часоў царызму; выкіданьне дробных арандатараў, супраць істнуючым законам; нячуваны вызыск абшарнікамі сялянскай працы; немагчымыя варункі працы пры сьмешна нізкай

плаце сельска-гаспадарчых работнікаў (парабкоў) у панскіх дварох,—ўсё гэта прымусіла задумацца нашага селяніна. Клясовая сьвядомасьць моцна ўзрасла, патрэбнасьць арганізацыі для абароны сваіх правоў і эканамічнага і нацыянальнага вызваленьня ўсё мацней адчуваецца ў вясковых хатах; рэвалюцыйныя настроі растуць. Блізкасьць Радавай Беларусі, дзе істнуюць зусім адменныя эканамічныя і палітычныя формы жыцьця толькі прысьпяшаюць гэты працэс, а зьдзек і прасьледаваньне мясцовай адміністрацыі, як гэта сьцьверджана з соймавай трыбуны пасламі ня толькі беларускіх, але і польскіх партыяў, парадзіла тое зьявішча, якое на афіцыяльнай мове носіць назоў „бандытызму“.

У працягу леташняга году сялянства нашае пазбавілася ілюзыяў і беспадстаўных надзеяў. Яно верыць толькі ў свае сілы і арганізуе гэтыя сілы. Яно ясна сабе ўявіла, што толькі саюз сялянства з гарадзкімі работнікамі зможа вызваліць яго ад эканамічнага і культурнага заняпаду. Што толькі работніцкасялянскі ўрад зможа вырашыць зямельнае пытаньне так, як гэтага вымагаюць патрэбы самога селяніна, як і патрэбы гаспадарчага разьвіцьця нашага краю.

К. К.

# Напружанае змаганьне.

*Зьбліжаемся да найвялікшых выпадкаў, якіх ня бачыў сьвет ад веку. Страшэнная барацьба распачнецца ўва ўсіх пунктах Эўропы, а вынік яе' бязсумліўны, безадносна да таго, якія будуць альтэрнатывы пасьпеху.... Тое, што падрыхтоўваецца, гэта не зьяўляецца нейкай пераменай, што заканчваецца транзакцыямі, рэгуляванымі праз трактаты, але гэта поўны і паўсямесны пераварот грамадзянства.*

*Кс. Lamennais. (1832 г.)*

Мінуўшы год распачаўся пад знакам умацаваньня рэакцыі бадай ува ўсіх краёх з капіталістычнай гаспадаркай і націскам рэакцыйных сілаў па ўсяму фронту на пазыцыі працоўных клясаў, якія былі здабыты пасьля сусьветнай вайны і раду рэвалюцыяў.

Перамога фашыстаў у Італіі, умацаваньне пазыцыі Пуанкарэ з яго „Нацыянальным Блёкам“ у Францыі, перамога консэрватараў у Англіі і Хьены ў Польшчы, усе больш узрастаючы ўплыў на ўладу штынэсаўскай „цяжкай прамысловасьці“ ў Нямеччыне, ня кажучы ўжо аб іншых драбнейшых фактах, усё гэта яскрава сьведчыла, што буржуазія пераходзіць у рашучае наступленьне па ўсяму фронту, каб раз назаўсёды ўмацаваць сваё панаваньне і аканчальна раздушыць рэвалюцыйны пралетарыят.

Што гэты паход рэакцыі *павінен быў* распачацца зусім зразумела, калі прыняць пад увагу тое эканамічнае палажэньне ў Эўропе, якое зьяўляецца вынікам сусьветнай вайны і ўмацаваньня работніцкасялянскай улады ўва Усходняй палавіне Эўропы—у Радавых Рэспубліках, утварыўшыхся на руінах Імпэрыі Раманавых.

Вытворчыя сілы, якія на пачатку капіталізму знайшлі ў форме капіталістычнага сацыяльнага ладу спрыяючыя варункі для свайго разьвіцьця, дайшлі да найвышэйшай ступені гэтага разьвіцьця ў часе імпэрыялізму. Тэндэнцыя да далейшага разьвіцьця гэтых сілаў нямінуча прыводзіла да канфлікту з істнуючымі прадукцыйнымі адносінамі і тым самым скіраваць іх проціў самога капіталістычнага ладу, як перашкоды да далейшага іх узросту. Гэты канфлікт і выліўся ў форму сусьветнай вайны, вынікам якой было падварушэньне падставаў самога капіталістычнага ладу, бязладзьдзе ў сусьветнай гаспадарцы і стыхія рэвалюцыйных рухаў. Ня можа быць ніякіх сумлеваньняў, што пасьля вайны мы ўступілі ў пэрыяд шырокіх і глыбокіх рухаў сярод грамадзянства, якія будуць трываць датуль, пакуль вытворчыя сілы, што ўжо перарасьлі рамкі капіталістычнага ладу, ня знойдуць адпаведнага прастору для далейшага разьвіцьця ў варунках вовага сацыяльнага ладу. Слушнасьць гэтага пагляду падцьвярджаюць падзеі пасьляваеннага часу, калі мы бачым бязладзьдзе ў эканамічных адносінах у буржуазных дзяржавах, нездольнасьць буржуазіі вярнуць сусьветную эканамічную раўнавагу, а нават наладзіць гаспадарчае жыцьцё ў сваім краі, і шпаркае эканамічнае адраджэньне, ня гледзячы на страшэнна цяжкія вонкавыя і ўнутраныя абставіны, ў Саюзе Сацыялістычных Радавых Рэспублік.

Рэвалюцыйная хваля, пракаціўшаяся пасьля вайны над Усходняй і Цэнтральнай Эўропай прымусіла буржуазію нават і ў іншых краёх зрабіць пэўныя ўступкі працоўным клясам. Але з другога боку адбудова зруйнаванай вайной капіталістычнай гаспадаркі, зьменшэньне ёмкасьці ўнутраных рынкаў і ўтрата замежных (спыненьне гандлёвых зносінаў з С. С. Р. Р., пераход колёніяў эўрапейскіх дзяржаў бадай выключна ў сфэру амэрыканскіх уплываў і г. д.) вымагала павялічанага вызыску работнікаў. Канкурэнцыя адбывалася ня шляхам лепшай арганізацыі вытворчасьці, а выключна шляхам зьменшэньня коштаў вытворчасьці праз абніжэньне заработнай платы і павялічэньне дня працы. Гэта асабліва ярка кідаецца ў вочы ў краёх з нездаровай фінансавай гаспадаркай, дзе, як напр. у Нямеччыне заработная плата кваліфікаванага работніка дасягае ледзь 20%, а некваліфікаванага 10% перадваеннай нормы.

Зразумела, што для дасяжэньня гэтых мэтаў буржуазія павінна была імкнуцца да таго, каб улада знаходзілася поўнасьцю ў яе руках і то ў руках яе найбольш рэакцыйных слаёў, якія ня стрымаліся-б ні перад чым, каб задушыць натуральны спраціў вызыскуемых клясаў. У краёх, найбольш эканамічна пацярпеўшых ад вайны знаходзіць шырокі послух і спачуцьцё ідэя дыктатуры буржуазіі ў форме фашызму, які, атуманіўшы шырокія масы нацыянальным шовінізмам, адкрыта адкідае прынцыпы парлямэнтарнага дэмакратызму. У некаторых краінах, як Італіі, Гішпаніі, Баўгарыі, фашысты шляхам аружнага перавароту захапілі ўладу ў свае рукі, распачаўшы самыя дзікія рэпрэсіі проціў усіх формаў работніцкага руху: прафэсыянальныя саюзы зачыняліся; сацыялістычныя партыі і перадусім камуністычная абвяшчаліся антыдзяржаўнымі і пазбаўляліся ахраны закону, таксама як і сацыялістычная прэса. У краінах-жа, дзе рэакцыйная буржуазія атрымала ўладу шляхам канстытуцыйным, як у Англіі, Францыі, Польшчы, тое самае праводзілася пад прыкрыцьцём дэмакратызму, імкнучыся шляхам правядзеньня ў парлямэнтах адпаведных законаў як мага звузіць правы працоўнай люднасьці.

Гэтая пляновая барацьба з работніцкім рухам праводзілася сыстэматычна. Ня маючы адвагі і сілы адкрыта змагацца адразу з усім пралетарыятам, праводзіцца сыстэма разьдзелу пралетарыяту на розныя групы і разьбіцьця іх паасобку, пачынаючы ад найбольш рэвалюцыйных.

Яркім прыкладам гэтага можа нам паслужыць змаганьне з сацыялістычнымі пасламі ў Польскім Сойме. Домбаль, М. Луцкевіч і Баран, Станьчык і Баброўскі,—вось тры этапы гэтай барацьбы. Абвесьціўшы антыдзяржаўнай перш камуністычную партыю і выдаўшы суду пасла-камуніста яшчэ ў Уставадаўчым Сойме, польская буржуазная большасьць у Сойме пераходзіць да другой катэгорыі рэвалюцыйнага пралетарыяту—сацыялістаў нацыянальных меншасьцяў, арыштоўваючы нават бяз выдачы Соймам суду ўкраінскага пасла М. Луцкевіча і беларускага С. Барана. Праз некалькі месяцаў далейшы шаг у гэтым кірунку які выразіўся ў выдачы Соймам паслоў Польскай Сацыялістычнай Партыі Станьчыка і Баброўскага пасьля вядомых кракаўскіх выпадкаў.

Адначасна выпрацоўваюцца законы быццам ў разьвіцьцё канстытуцыі, а ў запраўднасьці супярэчныя з духам канстытуцыі. Сутнасьць гэтых законаў зводзіцца да абмежаваньня свабоды сабраньняў, забастовак, прэсы г. зн. тых свабодаў, якія зьяўляюцца падставай істнаваньня дэмакратычнага ладу. Высоўваюцца праекты надзвычайных паўнамоцтваў для ураду ў вобласьці гаспадарчага і сацыяльнага законадаўства. Гэтыя надзвычайныя паўнамоцтвы ў Нямеччыне далі ўжо вынікі ў форме зьнясеньня 8 гадз. дня працы, такіх-жа вынікаў трэба спадзявацца і ў Польшчы, калі ўрад Грабскага атрымае гэтыя паўнамоцтвы.

У далейшым змаганьні буржуазія не абмяжоўваецца павялічэньнем вызыску працоўных масаў, а імкнецца ўзлажыць на гэтыя масы ўвесь цяжар утрыманьня дзяржаўнага апарату буржуазнага гаспадарства, якое забесьпячае буржуазіі пануючае палажэньне. Падатковы цяжар у вялізарнай большасьці кладзецца на эканамічна-зруйнаваныя слаі працоўных. Гэта асабліва яскрава кідаецца ў вочы ў Нямеччыне: 97,22% падатку на даходы заплацілі работнікі і толькі 5,78% прамыслоўцы! Ня лепш стаіць справа і ў іншых дзяржавах, а калі да гэтага дадамо, што большая частка дзяржаўнага даходу складаецца з так званых пасрэдных падаткаў (акцызаў), якія чуць ня выключна прыходзіцца плаціць шырокім слаям спажыўцаў, і інфляцыйнага падатку, г. зн. абніжэньня вартасьці грошаў з прычыны друкаваньня ўсё новых папяровых грошовых знакаў, нічым не забясьпечаных, можам сьмела сказаць, што буржуазія бадай не нясе ніякіх выдаткаў на ўтрыманьне ўласнага дзяржаўнага апарату.

Але наступ буржуазіі павінен быў выклікаць і праціванаступ з боку працоўнага люду. Трымаючыся выключна тактыкі абароны ў пачатку году, пралетарыят усё больш рашуча пачынае выступаць ня толькі для таго, каб захаваць свае дасюлешнія здабыткі, але ўжо і для новых заваяваньняў і ня толькі для матар'яльнага паляпшэньня, для зьменшэньня вызыску капіталістаў, а для аканчальнага вызваленьня, заваяваньня ўлады, для перабудовы сацыяльнага ладу на новых падставах.

Уважна прасьлядзіўшы разьвіцьцё работніцкага руху ў Польшчы мы ўбачым як ад чыста абарончаскай тактыкі ў пачатку году гэты рух пераходзіць праўда на грунце чыста-эканамічным у наступ, які выявіўся ў цэлым радзе забастовак у ліпні і жніўні, ахапіўшы ўсе прамысловыя цэнтры Польшчы; як гэты рух у лістападзе прымае чыста палітычны характар і заканчываецца, праўда часовай, але бліскучай перамогай у Кракаве, і ня віна работніцкіх масаў, што гэтай перамогі не выкарысталі іхныя афіцыяльныя правадыры.

Адначасна разрастаецца і прымае больш выразныя формы і сялянскі рух, асабліва на абшарах украінскіх і беларускіх, дзе да эканамічнага вызваленьня далучаюцца лёзунгі вызваленьня і нацыянальнага. „Зямля бяз выкупу“ магутным клічам раздаецца на кангрэсе „Wyzwalenia“ у Варшаве, і на грунце змаганьня за зямельную рэформу падае рэакцыйны ўрад Хьена-Пяста.

Перамога консэрватараў у пачатку мінулага году ў Англіі, на якую так многа надзеі ўскладалі рэакцыянеры іншых краёў і народаў, таксама аказалася не даўгавечнай і ўжо праз год на новых выбарах яны пацярпелі паражэньне, а Партыя Працы, вышаўшы з барацьбы яшчэ больш узмацаванай, стаіць перад магчымасьцю ўтварэньня работніцкага ўраду ў Англіі і правядзеньня частковай нацыяналізацыі капіталістычных прадпрыемстваў.

Ня гледзячы на страшэнна цяжкія ўмовы, нямецкі пралетарыят ня толькі не аслабеў, але ўсё больш узмацоўваецца. Праўда, работніцкія ўрады ў Саксоніі і Тюрынгіі былі звалены, дзякуючы здрадніцкай палітыцы нямецкіх сацыял-угадоўцаў, але ўзрост рэвалюцыйных сілаў нямецкага пралетарыяту зьяўляецца фактам, якога ніхто ня можа адкідаць; і калі ў Нямеччыне не настаў яшчэ мамэнт аканчальнай і рашучай барацьбы, дык гэта тлумачыцца ўласьцівай нямецкаму народу развагай: нямецкі пралетарыят ня хоча распачынаць гэтай барацьбы, пакуль істнуе хаця-б малейшая няпэўнасьць у перамозе, бо распачатая барацьба павінна быць выграна, а паражэньне пралетарыяту, толькі яшчэ больш і на доўгі час умацавала-б сілу буржуазіі.

Падобныя-ж зьявішчы мы бачым і ў іншых краёх: усюды йдзе напружаная барацьба і ўзмацаваньне сілаў працоўных клясаў нават там, дзе фашызм у гэтай барацьбе стасуе да работнікаў найдзікшыя рэпрэсыі, дзе, як у Францыі, нацыяналістычны шал пераможцаў асьляпляе яшчэ шырокія масы.

Новы год распачынаецца пад знакам контр-наступленьня працоўных проціў уціску і вызыску буржуазіі. Новы год распачынаецца пад знакам аб'яднаньня ўсіх працоўных, утварэньня адзінага фронту сялянства і работнікаў, пад знакам напружанага змаганьня з супольным ворагам за ўтварэньне работніцка-сялянскай улады, як першага заданьня палітычнага мамэнту.

І мы верым, што Новы Год прынясе перамогу і вызваленьне аб'яднаным працоўным масам.

Кумельган.

# Пяты год „Вэрсальскай Эўропы“

У працягу ўсяго мінуўшага году разьвіваліся і абастраліся нявырашымыя супярэчнасьці (вадліва і штучна створанай Антантай—у азарце перамогі—„новай, Вэрсальскай Эўропы“. Як ведама, галоўная вада гэтага Вэрсальскага трактату зьмяшчаецца ў тым, што ён, у імкненьні пазбавіць сьвет „нямецкай небясьпекі“, ня толькі мілітарна аслабіў Нямеччыну, але і эканамічна зруйнаваў гэты найвялікшы, наймацнейшы і, як мы цяпер ўсе пачулі, — найпатрабнейшы для ўсяго сьвету прамысловы і духовы арганізм Эўропы,—на карысьць яго шмат слабейшых канкурэнтаў-пераможцаў, а перадусім на карысьць выраджаючаеся, амаль не сьмяротна раненай у вайне, ня гледзячы на „сваю“ перамогу, Францыі.

У тым якраз і зьмяшчалася ўся ненармальнасьць і шкода для усяго эканамічнага сьвету такой перамогі... Бо перамаглі Нямеччыну магутныя Амэрыка і Англія, а карыстацца з перамогі стала слабая, але толькі захаваўшая ад вайны аружжа Францыя...

З зусім вэрсальска-хворай лёгікай якраз на гэтую эканамічна зруйнаваную Нямеччыну яе пераможцы, пад пагрозай аружных „санкцыяў“, наложылі абавязак „адбудовы Эўропы“ і заплаты вялізарных адшкадаваньняў за страты і спустошэньні вайны...

З гэтага блуднага кола супярэчнасьцяў зусім лёгічна выплывалі ўсе тыя здарэньні, якія мелі месца у мінуўшым годзе.

У аднэй, здаецца, з апошніх прамоваў перад абняцьцем ўлады консэрватыўным урадам Лёйд-Джорж вельмі трафна і дасьціпна выразіў гэтую вадлівую сітуацыю, жадаючы ад п. Пуанкарэ выразнага адказу на пытаньне: „чаго ўласьціва Францыя жадае ад нямецкай каровы — малака ці мяса“...

Трагічная супярэчнасьць сучаснай Францыі якраз і зьмяшчаецца ў тым, што падтрымаць у ёй жыцьцё, сілу і пачуцьцё дабрабыту і бясьпечнасьці можна толькі мясам нямецкай каровы, але не малаком... І ўся справа—у тым, што Вэрсальская падстава „новай Эўропы“ дае Францыі бясспрэчнае, юрыдычнае права жывіцца гэтым нямецкім мясам, пазбаўляючы карову магчымасьці жыць і даваць малако...

І вось мінуўшы год якраз і пачаўся тым, што ўся паблізу Францыі лежачая Нямеччына пачала ператварацца Францыяй у бойню... 11/І пачалася акупацыя вугальнага і жалезнага сэрца „нямецкай каровы“...

Пачалася запраўдная „вайна ў часе міру“, вайна паміж узброеным да зубоў акупантам і зусім безаружным насяленьнем, пераважна—работніцкай масай...

Барацьба з пасыўным і актыўным спраціўленьнем Нямеччыны заняла амаль ня тры чацьвёртых мінуўшага году... На вачох усяго цывілізаванага сьвету „узброены вар'ят“, як называюць п. Пуанкарэ ў Англіі, „папраўляў абмылкі зашмат пасьпешнага міру“...

Расправы і рэпрэсіі акупацыйных генаралаў адзначаліся нячуванай, нялюдзкай жорсткасьцяй: масавыя высылкі, вастрогі, разстрэлы сталі зусім звычайным зьявішчам...

Усё жыцьцё, уся праца найвялікшага прамысловага абшару ў сьвеце спыніліся і замёрлі...

Пачалося хуткае і страшэннае руйнаваньне ня толькі акупаваных абшараў, але, зразумела, і ўсяе Нямеччыны, а перадусім яе працоўных масаў народу.

Вытрымаўшая нават вайну нямецкая марка ў часе „міру“ стромгалоў паляцела ў пропасьць, да рэшты руінуючы працоўны народ... За маркай адзін за адным тварыліся і ляцелі ўніз габінэты Вірта, Куно, Штрэзэмана... Ледзь трымаецца і сучасны—Маркса...

Калі ў нас, у Польшчы, цэны мераюцца пакуль што мільёнамі, дык у Нямеччыне ўжо прайшлі часы, калі яны мераліся мільярдамі: адзінкай меры ўжо зьяўляецца більён...

Нябывалая дарагоўля і бязьсільле ўраду даць арганізаваны адпор шкоднікам-акупантам, у зьвязку з вялікімі карысьцямі, якія цягнуць з народнай бяды абшарнікі, прамыслоўцы і спэкулянты,— параджалі галодныя бунты, абвастралі сацыяльныя

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

### ХРОНІКА.

**Прэсовыя справы**: Былы рэдактар зачыненых беларускіх часопісаў „Наш Сьцяг“ і „Вольны Сьцяг“ Язэп Лагіновіч атрымаў акт абвінавачаньня за зьмяшчэньне ў № 17 „Нашага Сьцягу“ артыкулу „Трэба склікаць усебеларускі зьезд Заходняй Беларусі“, у якім пракуратура дагледзела падбурэньне чытачоў да бунтаўнічых і здрадніцкіх чынаў і да ненавісьці паміж паасобнымі часткамі люднасьці Польскай Рэспублікі (арт. 129, п. 1 і 6 К. К.). У гэтым артыкуле, згодна з актам абвінавачаньня, аўтар даводзіў, што „беларуская люднасьць у Польшчы павінна імкнуцца да ўтварэньня незалежнай Беларускай Дзяржавы праз адарваньне ад Польшчы часткі яе тэрыторыі. што ў Польшчы беларуская люднасьць падлягае уціску і дэнацыяналізацыі і што з мэтай дасяжэньня незалежнасьці гэтая люднасьць павінна стварыць цесную і сталую нацыянальную арганізацыю“.

Другі акт абвінавачаньня закідае гр. Я. Лагіновічу зьмяшчэньне ў № 1 „Вольнага Сьцягу“ артыкулу „Дзесяць запаведзяў“, у якім крытыкуецца і зьневажаецца абрад прысяг (арт. 73 ч. І п. 2 і 74 ч. І п. 1 і ч. ІІ п. 2 К. К.).

Абедзьве справы будуць разглядацца Акружным Судом у Вільні.

**Вечарына.** 29 сьнежня ў залі Беларускай Гімназіі на карысьць незаможных вучняў Гімназіі наладжана была стараньнем Бацькаўскага Камітэту вечарына. Пастаўлена была п'еса Ф. Аляховіча „Страхі Жыцьця“.

**Пад суд за брахню.** Рэдактар „Dziennika Wileńskiego“ пацягнуты пад суд за зьмяшчэньне ў № 271 артыкулу „Nietykalni“, дзе падапы нязгодныя з праўдай факты аб мітынгу ў Работніцкім Доме, склікацым праз пасла Квапіньскага (P. P. S.).

**Камуністычныя адозвы.** На днях па вуліцах Вільні ў вялікім ліку былі параскіданы камуністычныя адозвы ў справе Кракаўскіх выпадкаў і заклікаючыя да барацьбы з урадам Хьена-Пяста.

**Прызыў 1903 года.** У хуткім часе адбудзецца прызыў 1903 году. Пры прызыве будуць давацца адсрочкі тым, хто вучыцца ў сярэдніх і вышэйшых школах, але не пазьней як да 1 ліпня 1924 г.

## Весткі з вёскі.

### Новыя зьдзекі паліцыі ў Косаўскім павеце.

Ня гледзячы на ўсялякія пратэсты люднасьці, дэлегацыі ў Сойм, інтэрпэляцыі ў Сойме, нашы Косаўскія царкі правяць пасвойму. Але так правяць, што народ са страху дрыжыць і просіць у Бога, каб лепей прыслаў у хату сьмерць, чым паліцыю.

Так 22 лістапада а першай гадзіне ночы камэндант пастарунку Сьвента-Вольскае паліцыі з двама паліцыянтамі прышлі ў дом грамадзяніна вёскі Велькая Гаць, Косаўскага пав. Янкі Басалая 60 гадоў і пачалі вымагаць, каб ён сказаў, дзе знаходзіцца яго сваяк, які быў арыштаваны і з пад паліцэйскага канвою ў м. Косава ўцек. Янка Басалай, ведаючы, што сваяк яго арыштаваны, пачаў гаварыць, што ня ведае дзе ён і куды яго арыштованага павяла паліцыя. Болей нічога не даведаўшыся, паліцыя пачала „безпрыстрастный допрос“, пачала яго біць чым папала і па чым папала. Былшая пры гэтым яго жонка, Праксэда, 62 гадоў пачала прасіць і маліць паліцыю, каб пакінулі біць яе мужыка. Просьбу яе яны скора-ж уважылі і замест яго пачалі катаваць яе. Білі ня тольткі тады, калі стаяла на нагах, але і тады, калі нават бедная кабеціна страціла прытомнасьць і павалілася, яе пажывую пачалі дратаваць нагамі. Кончылася гэта тым, што памарыўшыся паліцыянты мусіць захацелі есьці, бо забралі 20 штук яец, жалезныя вілкі і 4 палатняных шлеі.

Ня лепшы лёс спаткаў і Ульяну Савіч, 26 гадоў. Тыя-ж самыя паліцэйскія, ўварваўшыся ў хату, пачалі вымагаць, каб яна сказала дзе яе муж. На яе адказ, што ён арыштаваны паліцыяй, яе пачалі біць. Былшая ў хаці дзяўчына, сястра арыштаванага, вылецела з хаты і пачала крычаць, просячы ратунку. Тады камэндант, выскачыў на двор, ухапіў яе за касу, прывалок у хату і пачаў біўшым у руках кіем біць па твару, разьбіў вуха і палец. Маці гэтае дзяўчыны, старэнькая 68 гадоў пачала прасіць, каб пакінулі біць. Калі-ж яна запыталася за што яе бьюць, дык азьвярэўшыя паліцыянты, не ўважаючы на яе старасьць, накінуліся на яе, звалілі з ног і пачалі біць і таптаць нагамі. Калі кабета страціла прытомнасьць і ляжала, як няжывая, паліцэйскія зьлітаваліся над ею і пачалі адліваць з вядра вадою гаворачы: „калі ты будзеш так абамляваць, старая к...., дык я на цябе сем вёдраў вады выльлю, а потым можаш ісьці з жалабою да Сойму“...

**Косавец.**

**Порплішча**, Дунілаўскага пав.

У нас ёсьць каапэратыў, але нейкі асобны, бо носіць толькі назоў каапэратыва. Я ведаю, што ў каапэрацыі ўсе роўны. А ў нас дык наадварот. У нас у каапэратыве лічацца роўнымі толькі паны, панячкі, ды паўпанкі. Калі селянін, ды яшчэ, крый Божа, ў лапцях, захоча быць сябрам гэтай каапэратывы, дык куды там,— і на парог ня пусьцяць. Робіцца гэта пасьля таго, як зачынілі наш сялянскі (пішу наш дзеля таго, што там былі сябры і ў лапцях) каапэратыў. Цяпер сяляне моцна задумаліся і чэшуць патыліцы, як паправіць справу. Бо ў панскі каапэратыў ісьці ня варта, злупяць даражэй, як у звычайнай краме, бо і ці варта купляць там, адкуль цябе чуць ня ў шыю гоняць. Талкуюць і гутарацьць, каб адчыніць зноў свой сялянскі, мужыцкі каапэратыў. А я параджу, што гутарыць мала, трэба адразу брацьбыка за рогі. Трэба сабрацца, зрабіць пастанову аб адчыненых каапэратывах і пачаць далейшую працу. На колькі я ведаю, ў Вільні ёсьць саюз каапэратываў, які пойдзе на сустрэчу вашым жаданьням. Дык не марнуйце дарэмна часу, а прыступайце адразу да працы.

**Т—кі.**

## УСХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

### З Менску.

**Прэміі за палепшаныя способы вядзеньня сельскай гаспадаркі.** Эканамічнай Нарадзе Беларусі даручана разглядзець і зацьвердзіць праект пастановы аб выдачы прэміяў у ліку 2 процантаў с.-г. падатку тым сялянам, якія ўвялі палепшаныя способы вядзеньня гаспадаркі

**К арганізацыі с.-г. аддзелу пры Беларускім Музэі.** Прынята пастанова аб арганізацыі пры Беларускім Дзяржаўным Музэі сельска-гаспадарчага аддзелу з экспанатаў беларускага павільёну ўсесаюзнай сельска-гаспадарчай выстаўкі.

Арганізацыя с.-г. аддзелу даручана Народнаму Камісарыяту Земляробства.

Адчыненьне яго будзе прыстасована да адчыненьня Цэнтральнага Дому Селяніна.

**У Беларускім Выдавецтве.** Беларускае Выдавецтва ў пачатку сьнежня выпушчае з друку „Роднае Слова“ Некрашэвіча, чарговы нумар „Полымя“ і беларускі каляндар на 1924 г.

**Ажыўленьне каапэрацыйнага гандлю.** У зьвязку з павышэньнем цаны на хлеб, значна ажывіўся каапэрацыйны гандаль на Беларусі.

У вялікім ліку купляецца мануфактура і харчаваньне.

Павялічыўся таксама збыт мяйсцовых тавараў за межы Беларусі. Між іншым распачалася адпраўка беларускай жывёлы ў Петраград і інш. мейсцы С.С.С.Р.

Скураныя тавары ЦБС збываюцца ў самых далёкіх мяйсцох СССР—у Разані, Туле, Курску і інш.

**Прыезд беспрацоўных беларусаў з Польшчы.** Гэтымі днямі з Смаргоні, Віленскай губ., у зьвязку з беспрацоўем у Польшчы, прыехала ў Менск партыя рабочых-беларусаў у ліку 11 чал.

Прыехаўшыя атрымалі з Народнага Камісарыяту Сацыяльнай Забясьпекі неабходную адзежу і выехалі ў розныя мейсцы СССР на працу.

**Выкладаньне германазнаўства ў школах.** Ува ўсіх школах і тэхнікумах Беларусі пачынаюцца заняткі па германазнаўству.

У плян германазнаўства ўваходзяць эканамічная і палітычная геаграфія Нямеччыны, тэхніка і партыйны рух.

Курс германазнаўства—трохмесячны.

ГРАМАДЗЯНЕ! Дарагоуля расьцецьць. Выдаваньне цяпер газэты вымагае вялікіх коштаў. Зьбірайце сярод знаёмых ахвяры на беларускі прэсовы фонд! Падтрымлівайце сваю газэту акуратнай высылкай падпісных грошай. Захвочвайце да падпіскі другіх!

## Допісы.

### Беларусы у Амэрыцы.

(Ад уласнага карэспандэнта).

**Пашырэньне руху.**

За штату Іллінойс, які фактычна стаў асяродкам беларускага руху ў Амэрыцы, самаарганізацыя беларускіх эмігрантаў пашыраецца шырокай хваляй. У першых днях сьнежня дэлегат Я. Варонка выяжджае ў штаты Індыяна (на ўсход) і Віскансін (на поўнач)—для дакладаў і мітынгаў. На Каляды назначана колькі лекцыяў у Нью-Ірку і Філадэльфіі.

**Нацыянальнае пытаньне у Радавай Расеі і Беларусь.**

Другая лекцыя беларускага дзеяча і лектара Я. Варонкі на тэму: „Нацыянальнае пытаньне ў Радавай Расеі і Беларусь“, якая адбылася ў сераду 14-га лістапада сабрала ў залі сходаў Беларускага Народнага Тавариства многалікую аудыторыю беларускіх выхадцаў. Ды і няма дзіва. Багатая эрудыцыя лектара, веда ўсіх галін расейскай палітычнай думкі навейшай эпохі, знаемасьць Я. Варонкі з усімі паміжнацыяльнымі ўзаемнаадносінамі народаў Усходняй Эўропы, а таксама яго шматгадовая грамадзянска-палітычная праца на Бацькаўшчыне, даюць яму права аўтарытэтна судзіць аб усіх адбываючыхся здарэньнях і рабіць бязабмылковыя вывады. Паміма гэтага, Я. Варонка прычароўвае аўдыторыю яшчэ тым, што умее знаходзіць у сваіх палітычных праціўнікаў добрыя стораны, ілюструе свае весткі дакумэнтамі і вынятнамі з прамоваў і дакладаў важакоў той ці іншай палітычнай партыі. Лекцыя гэта па свайму зьместу закранула цэлы шэраг пытаньняў, як напр.: аб нацыянальнасьці і нацыянальнай праблеме ў наш час наагул, аб розных відах падступу да вырашэньня нацыянальнага пытаньня на захадзе Эўропы, аб лёзунгах Вялікае вайны і Версальскага міру, аб Расейскай рэволюцыі і яе лёзунгу: мір бяз анэксыяў і кантрыбуцый на праве самавызначэньня народаў і г. д. Асаблівую ўвагу лектар зьвярнуў на падступ да вырашэньня нацыянальнага пытаньня расейскай камуністычнай партыяй ува ўсе перыяды яе істнаваньня: Жэнэўскі, Петраградзкі, Маскоўскі, ад першага абвешчаньня Р. С. Ф. С. Р. і да перабудовы Расеі ў С. С. Р. Р. Вялікай навіной для слухачоў зьявілася знаёмства з навейшымі пастановамі Р. К. П. аб беларусізацыі адміністратыўнага апарату ў Беларускай Рэспубліцы, аб абавязковым навучаньні, пачынаючы ад пачатковых і канчаючы Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэтам, у беларускай мове і ў той самы час барацьба з небеларускімі шавіністамі. Пасьля лекцыі, якая адбывалася каля 2 гадзін, Я. Варонка яшчэ доўгі час адказываў на запытаньні слухачоў, якія выклікаль былі тэзысамі лекцыі, а наастатак сказаў прамову аб значэньні адраджэньня сялянскага беларускага народу, як самага дэмакратычнага ў Эўропе.

Лектар меў вялікі ўсьпех.

**І. Лабенец.**

### Адкрытае пісьмо

*Высокапаважаны Грамадзянін Рэдактар!*

Гэтым пісьмом мы, ніжэйпадпісаныя, маем гонар зазначыць, што карэспандэнцыі пад загалоўкам „Пісьмы з Латвіі“ за подпісам „Гуль“, зьмешчаныя у №№ 13 і 14 газэты „Змаганьне“, зьяўляюцца зусім аб'ектыўным апісаньнем становішча Беларускай Справы ў Латвіі.

**У. Корці**
**І. Краскоўскі**
**П. Мядзіолко-Грыб**
**У. Пігулеўскі**
**А. Якубецкі**

13/XII 1923 г.
м. Дзьвінск.

*Пішыце да нас аб жыцьці-быцьці вёскі, аб сваіх ворагах і прыяцелях. Хай кожны падпішчык „Змаганьня“ будзе і яго супрацоўнікам.*

